ЗАХОДНЕ-БЕЛАРУСКАЯ АПАЗІЦЫЙНАЯ ГАЗЕТА



VOLNAJE HŁYBOKAJE

# Вольнае Глыбокае



№1 (5), снежань1996 г.
Выдаецца са снежня 1994 г.
Кошт па дамове

## МЫ КАЖАМ ДЫКТАТУРЫ — НЕ !

*Бестсэлер*
**Юрась Беленькі:**

## “МАФІЯ ПАСТАВІЛА НА ЛУКАШЭНКУ, КАБ НЕ ДАПУСЦІЦЬ ДА ЎЛАДЫ ПАЗЬНЯКА...”

*Чытайце газету “Сенсация”, №8 (18) 1996 г*

## ПАСЛЯ “РЭФЕРЭНДУМУ”— СУД НАД ПАЭТАМ

25 лістапада, на другі дзень пасля заканчэння лукашэнкаўскага “рэферэндуму”, у Віцебску пачаўся суд над паэтам і журналістам Славамірам Адамовічам. Яго абвінавачваюць па некалькіх артыкулах крымінальнага кодэксу: спроба пераходу дзяржаўнай мяжы, нашэнне халоднай зброі, заклік да тэрарыстычнага акту. Але нават не юрысту бачна, што гэтая “крымінальная” справа шытая белымі ніткамі. Суд над С. Адамовічам— гэта расправа кіруючага ў Беларусі марыянетачнага рэжыму над палітычным апанентам. С. Адамовіча судзяць таму, што ён свядомы беларус і нават беларускі нацыяналіст.

Разам з С. Адамовічам па гэтай справе ў якасці абвінавачаных праходзяць выдаўцы незаконна забароненай газеты “Выбар”— Б. Хамайда і У. Плешчанка. Менавіта ў гэтай газеце быў змешчаны верш С. Адамовіча “Убей президента”.

У пачатку суда Б. Хамайда і У. Плешчанка выказалі недавер суддзі, паколькі ён залежыць ад пацярпелага— прэзідэнта Беларусі. Суд пасля кароткай нарады адхіліў гэтае хадайніцтва, грунтуючыся на тым, што суддзю прызначаў яшчэ Вярхоўны Савет. Але ж зараз гэты суддзя цалкам залежны ад прэзідэнта.

Потым высветлілася, што па працэс не змог прыбыць адвакат С. Адамовіча па прычыне занятасці іншымі справамі— так растлумачыў суддзя. С. Адамовіч заявіў, што без адваката ён не будзе адказваць на пытанні. Суд адклалі на тыдзень.

*А. Букачоў*

## КАГО ПЕРАМОГ “БАЦЬКА”

Наш “усенародна абраны” дабіўся чарговай трыумфальнай перамогі: 24 лістапада “победоносно” завяршылася “битва за референдум”. Невядома, ці чытаў Лукашэнка “Майн кампф”, але вядома яго прыхільнасць да ўнутранай палітыкі Гітлера. Калі меркаваць па двух праведзеных “рэферэндумах”, то наш "бацька"— дастойны вучань “бесноватого” фюрэра. Ёсць у прэзідэнта свае гебельсы і розенбергі. Без іх ён— як без рук.

Як бы там не было, беларускі народ у чарговы раз уручыў свой лёс “бацьку”. А. Лукашэнка акрамя А. Гітлера, называў сваімі палітычнымі кумірамі Ф. Дзяржынскага, Ю. Андропава, П. Машэрава. З гэтага можна зрабіць вывад: ніякай дэмакратыі, ніякіх правоў чалавека на Беларусі не будзе, пакуль намі будзе кіраваць гэты дырэктар саўгаса, які зрабіўся дырэктарам рэспублікі. Наша краіна ператворана ў саўгас. У саўгасе не можа быць ніякай апазіцыі, ніякіх парламентаў, ніякіх канстытуцыйных судоў.

А на пытанне, вынесенае ў загаловак, можна даць адназначны адказ. Лукашэнка ў чарговы раз атрымаў перамогу не над апазіцыяй, а над адурманеным, дашчэнту празамбіраваным беларускім народам.

*А. Букачоў*

## НАД ВЁСКАЙ ЛУНАЎ СЦЯГ

Жыхар Глыбокага Я.Х. 27 ліпеня г.г. на сваім балконе вывесіў бел-чырвона-белы сцяг. Свой балкон—што хачу, тое й вывешваю! Дазвол магу пытаць толькі ў жонкі. Можна вывесіць сцяг, прыкладам, Буркіна-Фасо. Ніхто не заўважыць, нават не зразумее, што гэта—”незарэгістраваная сімволіка”. Да Вас не прыйдзе міліцыянт складаць пратакол, а суседзі не будуць абурацца.

Бел-чырвона-белы сцяг—іншая справа. Сімвал незалежнасці Беларусі. Суседзі абурыліся. Званкі ў міліцыю—прыміце меры! Складзены пратакол, вынесена папярэджанне.

Невядомыя “наўмыснікі” ў верасні г.г. вывесілі бел-чырвона-белы сцяг на высокай апоры ЛЭП ля дарогі Латыголь-Заваргаты. Сцяг над вясковым абшарам лунаў чатыры дні. Гэтая “акцыя”, можна меркаваць, была прысвечаная перамозе беларускага войска над маскоўскім пад Оршай 8 верасня 1514 г.

Па Глыбокім ходзяць неправеранныя чуткі, што нехта збіраўся вывесіць беларускі сцяг 6 лістапада ў цэнтры Глыбокага, на самым высокім збудаванні—воданапорнай вежы. У гэты дзень, у 1661 г., беларускае войска пад камандай Чарнецкага разбіла ўшчэнт маскоўцаў у колькасці 18-20 тыс. чалавек пад камандаваннем Хаванскага. Беларусы захапілі багата трафеяў—6 гармат, вялікі запас пораху, звыш 6000 тыс. павозак з правіянтам. Рэшткі маскоўскага войска збеглі ў Полацк.

Znaйca

**А.Сьцепанюк**

## ВЕРА

*На сотую гадавіну*
*ад нараджэньня*
*Алеся Гаруна*

Ня плач Айчына
вялікі Бог
магіл тваіх
палечыць раны
і зноў на твой
сьвяты парог
прыйдуць Алесі
Цішкі
і
Іваны

А ты як маці
прыймеш іх
і зноў абнімеш
сваім лонам
яны з крывавых
горкіх сьлёз
дадуць жыцьцё
тваім загонам

І будзе сьвята
будзе баль
зноў кліч Пагоні
дзесь над намі
няхай жыве
наш карнавал
наш беларускі
пад сьцягамі

Няхай у сьвет
ляціць прывет
усім народам
у свабодзе
ад шчырай
нашае душы
заўсёды будзем
жыць у згодзе

Айчына маці
яшчэ раз
крыжоў тваіх
пражыць ня хачу
таму з прысягай
на губах
сто раз цалую
твае вочы

*“Сустрэчы” N6, Варшава, 1987 г.*

# МЫ БЫЛІ Ў МЕНСКУ 19 КАСТРЫЧНІКА

## А ДЗЕ БЫЛІ ВЫ?



**Глыбачане на мітынгу ў Менску 19.10.96г.**
***Фота Зміцера Курцэвіча.***

Праз хвіліну-другую мы ўжо мусілі ад'язджаць з Глыбокага ў сталіцу на мітынг у абарону Канстытуцыі супраць дыктатуры, як бачым: па Маскоўскай вуліцы рухаюцца два “ЛАЗы”, а напярэдзе—міліцэйская машына з “міргалкай”. Уражанне такое—вязуць нейкі надта каштоўны, альбо наадварот—вельмі небяспечны груз. Бо чаму такая перасцярога?! Аказваецца—едуць нашы “лучшие люди района” на т.зв. лукашэнкаўскі Усебеларускі сход. Хлопцы схапіліся за бел-чырвона-белыя сцягі, хацелі выбегчы на дарогу, “прывітаць” нашых пасланцоў. Не паспелі. Позна заўважылі. Нічога—усё наперадзе!

Глыбокае—ужо далёка. Наш старэнькі “маскалёк” /”Масквіч”/ праз гадзіны дзве пад'язджае да Лагойску. Беларуская Швейцарыя! Прыгажэйшы куток Беларусі! Аднак навокал нікога не бачна. “Туманны Альбіён!” Усё ахутана шчыльным туманам. А на душы—трывожна. Раз-пораз па аўтастрадзе праносяцца армейскія машыны, шматлікія міліцэйскія пасты наўзбоч дарогі.

Ужо Мінск. Пляц Я.Коласа. Месца збору. Адсюль павінна рушыць шматтысячная калона дэманстрантаў. Мора бел-чырвона-белых сцягоў. Прыгожыя людзі. Шмат моладзі. На тварах няма ніякай злосці, усе ўсміхаюцца, вітаюцца паміж сабой. Міжволі згадваецца іншае. Глыбокае. Дом саветаў. Перадвыбарчы сход прыхільнікаў Лукашэнкі. Злыя, нейкія нервовыя людзі, рваныя, смярдзючыя ватоўкі. Воплескі ў адказ на бязглуздыя прамовы выступоўцаў. Дзень і ноч!

Як перадаць уражанні ад мітынгу і сэнс прамоў? Пра ўражанні можна пісаць, калі ты ўпершыню бярэш удзел у масавай маніфестацыі. Нашы ж глыбоцкія мальцы—ужо загартаваныя, сталыя ўдзельнікі мінскіх дэмакратычных мітынгаў. Штораз у такой імпрэзе ўдзельнічае тры-пяць чалавек. І гэта—пачынаючы ад 1990 года! Не будзе памылкай сказаць, што ўвогуле аснову мінскіх дэманстрантаў складаюць ураджэнцы Глыбоччыны, а таксама іншых заходнебеларускіх гарадоў: Пінска, Пастаў, Ваўкавыска, Браслава..., якія цяпер стала жывуць у сталіцы альбо навучаюцца ў ВНУ і тэхнікумах. Але ёсць адна акалічнасць, якую варта адзначыць. Калі першыя мінскія мітынгі былі ўрэшце рэшт чыста БНФаўскімі, то праз 5-6 гадоў удзел у іх бяруць людзі розных палітычных рухаў і поглядаў. Агульная праблема— наступ цемрашальства,

*(Працяг на 2-й стар.)*

